# ВЕСЬНІК

**Беларускага Каталіцкага Душпастырства**

**Но.1 (10) Лёндан Вялікдзень 1990**


## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

### ВОЙЧА, ПРАБАЧ...

Хрыстос ўваскрос! Усюды радасьць,
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;
Вялікі Мучанік, здаецца,
Абняў ўсіх ласкаю сваей.
(Янка Купала)

У гэтых словах паэты адчуваецца радасьць вялікага сьвята, чаканьне нечага новага, сьветлага. Адначасова Купала здае сабе справу з таго, якой цаной купленая гэтая радасьць і называе яе віноўніка Вялікім Мучанікам.

Вялікдзень – дзень Уваскрасеньня Хрыстовага, сьвята перамогі жыцьця над сьмерцю.

Аднак Вялікдзень папярэдзіла Вялікая Пятніца, калі паміраў прыбіты да Крыжа Той, хто сказаў аб сабе:"Я – Дарога і Праўда, і Жыцьцё". Ён быў прадаты адным са сваіх вучняў ў рукі ворагаў, фалшыва абвінавачаны, засуджаны на сьмерць судзьдзёю, для якога дачасная выгода была важнейшай за праўду, ("Што ёсьць праўда?" – спытаў ён Хрыста) , пакінены сваімі найбліжэйшымі вучнямі і прыяцелямі. Перад сьмерцю Яму прыйшлося цярпець зьдзек з боку жаўнераў ("ахоўнікаў парадку"), і зьнявагі з боку фанатычнага натоўпу, падбухтораната сваімі ня менш фанатычнымі праваднікамі – таго самага натоўпу, які толькі некалькі дзён раней вітаў Яго ля варот Ерусаліму з галінкамі пальмаў і воклікамі "Гасанна". Кліч : "Божа, Божа мой, чаму Ты пакінуў мяне?"(Мц 27:46), які вырваўся з Ягоных вуснаў, ня быў выкліканы толькі фізычным болем. Гэта быў крык душы, што зьведала жах і горыч адзіноты і беспрасьветнай цемры. Як далёкі гэты кліч

ад сьветлага і поўнага дзіцячага даверу "Войча наш, што ў небе... будзь воля Твая ".

Падчас усяго гэтага Хрыстос не зрабіў ніводнай спробы абараніцца ад несправядлівых закідаў, даказаць сваю нявіннасьць. З ягоных вуснаў не пачулася ніводнага слова праклёну ці скаргі у бок тых, што яго прасьледавалі. Падчас суду ён маўчаў. І толькі, ужо вісячы на крыжы, з глыбіні сэрца Ягонага выплыла ціхая, лагодная малітва: "Войча, прабач ім, бо ня ведаюць, што чыняць"(Лк 23:24). Малітва адпушчэньня і прабачэньня.

Такім чынам, Госпад Ісус Хрыстос, які прыйшоў, каб прымірыць людзей з Богам, выканаў сваё заданьне да канца. Як Пасрэднік між Богам і людзьмі, вісячы на крыжы між небам і зямлёю, Ён дараваў нам прабачэньне і прымірэньне. Як Вялікі Сьвятар, – а сутнасьць сьвятарскага пакліканьня ёсьць прынасіць ахвяру Богу за сябе і за людзей, – Ён прынёс сябе як бязьвінную ахвяру за нашы грахі .

Але сьмерць і магіла аказаліся бясьсільнымі ўтрымаць Начальніка жыцьця. Памёршы як чалавек, на трэці дзень Ён уваскрос у славе як Бог, узьняўшы з сабою людзкую прыроду, якую Ён дабравольна ўспрыняў. Ён вярнуў чалавека да першаснага стану, аднавіўшы ў ім апаганены грахом вобраз Божы і даўшы магчымасьць нам усім "дзецьмі Божымі звацца", гэта значыць быць удзельнікамі вечнага Божага жыцьця. Такім чынам Уваскрасеньне можна назваць новым актам тварэньня.

Усе мы, у адрозьненьне ад Хрыста, які быў бязьвінным, маем патрэбу ў Божым прабачэньні. Гэта зразумеў адзін з укрыжаваных з Хрыстом разбойнікаў, які ў апошнюю хвіліну здаўся на Божую міласэрнасьць, просячы прабачэньня: "Успомні мяне, Госпадзе, калі прыйдзеш у валадарства Тваё" (Лк 23:42). Але прасіць прабачэньня недастаткова: калі хочам быць дзецьмі Божымі, мы павінны навучыцца прабачаць: "Любіце ворагаў вашых, бласлаўляйце тых, што праклінаюць вас, рабіце дабро тым, што ненавідзяць вас, і маліцеся за тых што крыўдзяць і прасьледуюць вас, каб вам быць сынамі Айца вашага Нябеснага" (Мц 5:44-45). Гэтыя словы Хрыста могуць выдацца нам цяжкімі, але ж Ён не вымагае ад нас нічога, чаго сам не перажыў...

Здольнасьць і гатовасьць з аднаго боку прызнаць сваю віну і прасіць прабачэньня, а здругога прабачаць іншым – вось першыя ўмовы аздараўленьня нашага жыцьця дачаснага і веч-

нага. Яны таксама зьяўляюцца асноваю справядлівага грамадзкага ладу, даючы магчымасьць загаіць тыя раны, віноўнікамі якіх часта зьяўляемся самі.

Бог зрабіў першы крок, даруючы праз Госпада Ісуса Хрыста прабачэньне ўсім, хто жадае. Цяпер чарга за намі: ці мы адкінем гэты Божы дар, ці можа разам з усёй Царквой Хрыстовай – гэтай супольнасьцю дзяцей Божых, – радасна запяём:

"Уваскрасеньня дзень! Дык прасьветлімся ўрачыстасьцю і адзін другога абдымем. Скажам "браты" і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля ўваскрасеньня. І ўсклікнем вось так: **Хрыстос уваскрос з мёртвых, сьмерцю сьмерць зваяваў, і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.**

а. Аляксандар Надсон

Вялікдзень 1990 г.

## САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!



## НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

У суботу 10 сакавіка, пасьля 46 гадоў, я зноў апынуўся ў Беларусі. Ехаў я туды не без хвалявання. Але першы крок на роднай зямлі і незвычайная цеплыня і сардэчнасьць, з якой мяне сустрэлі разьвеялі мае ўсе сумнівы: я быў на Бацькаўшчыне.

Аднак не спаўненьне асабістай запаветнай мары было галоўнай прычынай маёй паездкі. Я паехаў туды ад імя Беларускага Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі, які паўстаў у Англіі ў мінулым годзе, каб на месцы пазнаёміцца з вынікамі Чарнобыльскай аварыі ў Беларусі. За грошы сабраныя Камітэтам я вёз 3000 шпрыцаў аднаразовага карыстаньня, 100 аднаразовых прыбораў да пераліваньня крыві, і 15

банак полівітамінаў. На гэтым месцы хачу падзякаваць нашаму добраму прыяцелю, Джыму Дынглею, які дапамог мне з транспартам гэтых лекарскіх прыладаў, завёзшы іх сваёй машынай аж у Галяндыю, дзе яны былі пагружаныя на цягнік, які ішоў непасрэдна ў Менск.

У Менску, нягледзячы на кароткі час (я быў усяго ў Беларусі адзін тыдзень) мне ўдалося ўбачыць шмат. Гэта было магчымым у першую чаргу дзякуючы дапамозе старшыні Камітэту "Дзеці Чарнобыля" Генадзя Грушавога, які наладзіў мне наведваньні дзіцячых аддзяленьняў: гэматалягічнага Першай клінічнай бальніцы ў Менску, дзе знаходзяцца дзеці хворыя леўкеміяй (рак крыві); і анкалягічнага ў Бараўлянах (іншыя ракавыя захвораньні). Гэтым дзьвюм установам былі перададзеныя прывезеныя мною лекарскія прылады. Я меў таксама нагоду сустрэцца і гутарыць з многімі лекарамі і бацькамі маленькіх ахвяраў. У Беларускім Чырвоным Крыжы мне далі шмат практычных парадаў і канкрэтных прапановаў адносна далейшага супрацоўніцтва, а таксама лісту найбольш патрэбных лякарстваў і лекарскіх прыладаў. Тое,што мне прыйшлося ўбачыць і пачуць, напоўніла маё сэрца сумам. Нельга было глядзець раўнадушна на маленькіх дзетак – некаторым з іх было толькі некалькі месяцаў,– якія церпяць леўкознымі захвораньнямі, і іх бедных матак; назіраць сама-ахвярную працу лекараў, якія бясьсільныя памагчы сваім маленькім ахвярам з прычыны адсутнасьці найбольш неабходных лекарскіх сродкаў і неадпаведных умоваў. Наогул усюды кідаецца ў вочы несуразмернасьць між веліччу патрэбаў і адсутнасьцю сродкаў. Адчуваецца, што вынікі Чарнобыльскай аварыі гэта вялікае нацыянальнае няшчасьце, магчыма найбольшае з усіх, якія прыйшлося перажыць нашаму народу на працягу ягонай доўгай і шматпакутнай гісторыі. Беларусы самі ня ў сілах адолець яго. Тут патрэбная дапамога ўсяго сьвету. Перш аднак трэба, каб сьвет даведаўся аб велічы няшчасьця, якое сустрэла наш народ. Дзеля гэтага патрэбная сталая і рачовая інфармцыя аб становішчы ў Беларусі, ня толькі на беларускай, але на ангельскай, французсскай і іншых мовах сьвету. Вялікі маральны абавязак ляжыць на беларусах, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. Апошнім часам у розных краінах паўсталі арганізацыі і камітэты дапамогі ахвярам Чарнобыля. Гэта доказ, што сярод беларусаў на чужыне ёсьць шмат добрай волі прыйсьці з дапамогаю сваім братом і сёстрам на Бацькаўшчыне. Трэба толькі знайсьці спосаб, каб іхняя дапамога прынесьла як найбольш карысьці. Відаць дзеля гэтага найлепш было б злучыць сілы і апрацаваць супольны плян дзейнасьці. Нельга

толькі забывацца, што дапамога патрэбная цяпер: заўтра можа быць запозна...

Дзіўныя шляхі Божыя. Калі я пакідаў Беларусь у 1944 годзе, я ніколі не спадзяваўся, што вярнуся туды сьвятаром. Таму з асаблівым хваляваньнем я адслужыў у нядзелю 11 сакавіка ў касьцеле на Кальварыі ў Менску на беларускай мове маю першую на Бацькаўшчыне сьвятую Літургію за Беларускі Народ. Гэта была бадай першая каталіцкая Багаслужба ўсходняга абраду ў сталіцы Беларусі ад часу зьнішэньня Вуніі ў 1839 годзе. Ня мог я пакінуць Беларусі, не наведаўшы Курапатаў – гэтай Кальварыі беларускага народу. Я адправіў там службу за памёршых вечарам у сераду 14 сакавіка. Гэта былі незабыўныя хвіліны за якія я непамерна ўдзячны Богу. Хоць аб гэтых багаслужэньнях ня было афіцыяльнага паведамленьня, вестка аб іх разьляцелася па ўсім Менску. Як у царкве, так і ў Курапатах сабралася вялікая колькасьць людзей. Наогул я быў уражаны вялікай цягай да духоўнага, асабліва сярод моладзі, з якой я меў шмат гутарак і сустрэчаў. На жаль, яны былі быццам "авечкі, якія ня маюць свайго пастыра"(Мц. 9:36). Магчыма памыляюся, але з сустрэчаў і гутарак з вернікамі і сьвятарамі ў мяне асталося ўражаньне, што Каталіцкая Царква ў Беларусі далёкая ад беларускага народу і ўсяго, чым ён жыве і што яго хвалюе. Такое ненармальнае становішча ня можа не адбіцца шкодна, асабліва сярод нацыянальна сьвядомай моладзі, якая сёньня горнецца да Царквы, але, калі ня знойдзе там спагады і зразуменьня, можа хутка расчаравацца. Безумоўна ня ўсе прадстаўнікі Каталіцкай Царквы адносяцца абыякава або непрыхільна да беларусаў. Сярод высакародных выняткаў, у першую чаргу трэба ўспомніць а. Уладзіслава Чарняўскага, які вось ужо амаль сорак гадоў, нягледзячы на супраціў і варожасьць з боку іншых сьвятароў, змагаецца за права беларусаў славіць Бога на роднай мове. Да нядаўна ён быў бадай адзін. Але апошнім часам у яго знайшліся малодшыя пераймальнікі (праўда, пакуль што яшчэ нешматлікія), сярод іх а. Янка Матусевіч, які між іншым мне шмат дапамог падчас майго прабываньня ў Менску і якому я за гэта на гэтым месцы складаю шчырую падзяку. Хай Бог памагае ім у вялікай працы пашырэньня Валадарства Божага сярод беларускага народу. Безумоўна, становішча не папаравіцца, пакуль ня збольшыцца лік нацыянальна сьвядамых беларускіх сьвятароў. Дзеля гэтага сьвятарскія пакліканьні павінны быць прадметам штодзённых малітваў усіх нас.

Асобае слова трэба сказаць аб беларускай моладзі. Павінен прызнацца, што я астаўся захоплены тымі прадстаўнікамі яе, з якімі мне прыйшлося сустракацца. Для многіх з іх усьведамленьне нацыянальнай годнасьці прыйшлося нялёгка і таму яны даражаць ім як вялікім скарбам. Я знайшоў сярод іх сур'ёзны клопат аб будучыні свайго народу і зразуменьне неабходнасьці моцных духоўных асноваў у жыцьці ня толькі асабістым, але і грамадзкім. Многія з іх шукаюць гэтых асноваў у Хрысьціянстве, хочучы аднак знайсьці выражэньне вечных праўдаў Хрыстовых у форме якая б найбольш адказвала нацыянальнаму характару беларускага народу. У гэтым сэнсе заслугоўваюць на асаблівую ўвагу спробы адрадзіць Беларускую Каталіцкую Царкву ўсходняга абраду, ведамую лепш пад назвай Вуніяцкай Царквы. Ідэя адраджэньня Вуніі мае сярод моладзі даволі шмат прыхільнікаў. Я быў моцна ўражаны іхняй глыбокай і шчырай верай, і моцным намерам вытрываць на выбраным шляху, нягледзячы на цяжасьці, якія іх могуць чакаць у будучыні. Будучы сярод іх, мне здавалася, што Бог наканец пачуў нашы малітвы. Я толькі шкадаваў, што гэтай хвіліны не маглі ўбачыць Уладыка Часлаў Сіповіч, айцы Леў Гарошка, Язэп Гэрмановіч і іншыя нашы выдатныя сьвятары, якія пасьвяцілі сваё жыцьцё для ідэі Вуніі у часе, калі, гаворачы па-людзку, на яе адраджэньне не было надзеі. Але ў Бога ёсьць свае меркаваньні: некалі Майсей давёў выбраны народ да межаў абяцанай зямлі, але самому яму ўвайсьці туды не давялося.

Былі і сустрэчы з не такімі ўжо маладымі, але цікавымі і сардэчнымі людзьмі, якія жывуць Беларусьсю.

Кароткі час, які мне прыйшлося правесьці на Бацькаўшчыне, даў мне больш дакладнае ўяўленьне аб цяжкасьцях, які чакаюць беларускі народ у змаганьні за існаваньне, – якое аказалася пад загрозаю з прычыны Чарнобыльскай аварыі –, а таксама за нацыянальнае і духоўнае адраджэньне. Адначасова я павёз у сэрцы моцнае пераканаṇьне, што народ, які мае столькі добрых цудоўных дачок і сыноў, ня можа згінуць.

Пакідаў я родную зямлю з ціхай малітвай, каб добры Бог паблаславіў Беларусь і беларускі народ.

**************

Вяртаючыся з Беларусі, я затрымаўся на кароткі час у Варшаве, дзе ў нядзелю 18 сакавіка адправіў Багалужбу на беларускай мове ва ўкраінскай царкве на Мядовай вуліцы.

Меў таксама сустрэчу з сябрамі Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў (БАС) і адведаў клюб Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства.

а. Аляксандар Надсон



## Малітва

Сьвяты Божа, сьвяты моцны, сьвяты несьмяротны, Стваральніку і Абаронца, Найпершы і Найлепшы, адзіны праўдзівы Судзьдзя наш! Ты бачыш цяжкія ўчынкі нашыя, змрочныя думкі нашыя, Ты ведаеш як заблыталіся мы ў неправотах і як множым штодня грахі нашыя. Даруй нам у бязьмежнай дабрыні Тваёй, не адвярні вачэй Тваіх ад пакутаў нашых, бо ведаеш Ты, які цяжкі шлях наш да сьвятла і да праўды Твае, як доўга блукаці ў цямрычных лябірынтах мусілі, пакуль сьветач Твой ня ўбачылі ды насустрач яму ня рушылі, зьбіваючыся яшчэ штокроку і да варожага сыканьня прыслухоўваючы. Бо згубілі мы веру сваю сьвятую – у цяжкіх пакутах шукаці мусім. Бо забыліся мы на Царкву нашу Уніяцкую, Табою нам дадзеную – успамінаці мусім. Бо зглумілі мову нашу беларускую, зь якой да Цябе калісь прамаўлялі ў шчырасьці сваёй, – ратаваці мусім. Бо Унію нашу Сьвятую ворагам зьнішчыць дазволілі – адраджаці мусім. Умацуй дух наш і дай нам сілы ў гарачым памкненьні нашым. У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа. Амін.

Міхаліна

## Малітва
### (аб сьвятарскім пакліканьні)

У капліцы Тваёй
запалі мяне ціхаю сьвечкай,
прад абліччам Тваім
у сутоньні мяне запалі.
На зьмярканьні сьвятла
блаславі мой самотны агеньчык,
На зьмярканьні душы і любові
на гэтай зямлі.

Прад абліччам Тваім
дай гарэць трапятліва і ясна,
Чысьціню Тваіх рысаў
на хвілю замгліць не дазволь.
А як гаснуць пачну,
загасі мяне воляю ўласнай
У бажніцы Тваёй,
дзе зьліваюцца міласьць і боль.

Менск 16.3.90 Галіна Дубянецкая

Аўтарамі гэтых малітваў, якіх нельга чытаць без хваляваньня, зьяўляюцца дзьве маладыя беларускі з Менску.



## ЧАРНОБЫЛЬ І МЫ

У пачатку красавіка г.г. на рахунку Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі было 9000 фунтаў. Больш дакладныя весткі аб ходзе дапамаговай акцыі, а таксама сьпісак ахвярадаўцаў, будуць апублікаваныя асобна. Цяпер толькі прыпамнаем, што ахвяры можна слаць на адрас: Byelorussian Radiation Relief Appeal, Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY. Чэкі і грашовыя пераказы трэба выстаўляць на Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief).

Сп. Міхась Наўмовіч з Парыжа падаў думку зборкі грошай на закуп звышгукавага "сканнэра", ахвяраваўшы сам на гэтую мэту 1000 ангельскіх фунтаў. "Сканнэр" зьяўляецца вельмі патрэбнай дыягнастычнай прыладай для абсьледаваньня ракавых і іншых нутраных захвораньняў. Каштуе ён прыблізна 20 тысяч фунтаў. Хто хоча далучыцца да прыгожага пачыну сп. Наўмовіча, можа прысылаць ахвяры на вышэй паданы адрас, паведамляючы адначасова на якую мэту.

=========================================

**Apostolic Visitor for Byelorussians**
**Marian House,**
**Holden Avenue**
**London N12 8HY, England**